

# Ніва



ГОД I № 7 БЕЛАСТОК, 15 КРАСАВІКА 1956 г. ЦАНА 60 гр.

ГЕНРЫХ ГЕЙНЭ

## Ларэляй

*Адкуль ён узяўся, не знаю,*
*Той сум, што мяне агарнуў.*
*Чамусьці я ўсё ўспамінаю*
*Даўнейшую казку адну.*

*Вільготай вячэрняю вее*
*І дрэмле Рэйн стары,*
*На захадзе палымнее*
*Вяршыня крутой гары.*

*Сядзіць там, уся ў праменні,*
*Дзяўчына дзівоснай красы,*
*На ёй залатое адзенне,*
*І гэткія-ж валасы.*

*Яна іх расчэсвае грэбнем,*
*Чароўную песню пяе.*
*І песняю тою да неба,*
*Да сэрца яна дастае.*

*На чоўне рыбак выплывае*
*У сцішную тую пару,*
*Ён больш ні на што не зважае*
*І толькі глядзіць угару.*

*Прыгожае — недасяжна,*
*І шчасця ў ім не шукай.*
*Загінеш, рыбак адважны,*
*Ад песні Ларэляй.*

*З нямецкай мовы пераклаў*
Ю. ГАУРУК



*Возера Кшывэ ля Сувалкаў.* *Фото — Панкоўскі*



*Слупск — старажытная ратуша.* *Фото — ЦАФ.*

# НАШЫ ЗАДАЧЫ

АЛЯКСАНДР ДАВІДЗЮК

Старшыня Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства

Дзеля забеспячэння далейшага ўсебаковага развіцця грамадскага і культурнага жыцця беларусаў — жыхароў Польшчы — 26 лютага сарганізавана Беларускае грамадска - культурнае таварыства.

Задачы, якія ставіць перад сабой Таварыства — адказныя і ўсебаковыя.

У пастанове прынятай на першым арганізацыйным з'ездзе гаворыцца, што Таварыства павінна садзейнічаць яшчэ шпарчэйшаму развіццю сельскай гаспадаркі, далейшаму ўмацаванню дружбы паміж польскім і беларускім народамі, азнаямленню жыхароў нашай краіны з прагрэсіўнай беларускай культурай, развіццю культурнага жыцця сярод беларусаў.

Ажыццяўленне гэтых задач залежыць ад нас, ад усіх членаў Таварыства.

Ужо ў красавіку і маі будуць адбывацца павятовыя з'езды Таварыства. Абмяркуецца на іх справы непасрэдна таго, ці другога павета, паставіцца заданні новавыбраным Павятовым праўленням.

Дэлегаты на з'езд ведаюць патрэбы сваёй ваколіцы, ведаюць што хвалюе людзей, з якімі яны штодня сустракаюцца. Аб іх трэба гаварыць на з'ездах. А спраў ёсць многа.

Пленум КЦ ПЗПР паставіла перад народам вялікія заданні развіцця сельскай гаспадаркі ў пяцігадовым плане.

У іх ажыццяўленне ўлучаецца ўвесь народ у тым, ліку і мы, беларусы. Галоўная задача пяцігодкі — гэта арганізацыя новых сельскагаспадарчых кааператываў. Поспех іх арганізацыі залежыць ад шырока разгорнутай палітычнай працы сярод сялян.

Трэба пераканаць земляробаў, што калектыўная гаспадарка прыносіць шмат большыя карысці. Найлепшым агітатарам з'яўляецца дасягненні ўжо існуючых кааператываў.

З імі трэба азнаёміць жыхароў вёсак, у якіх яшчэ гаспадарыць аднаасобна. Экскурсіі ў кааператывы, асабістыя кантакты аднаасобных гаспадароў з членамі кааператываў — дадуць напэўна добрыя рэзультаты. „Ніва" з свайго боку ўжо паказвае дасягненні перадавых кааператываў Беласточчыны і Совецкай Беларусі. Гэтыя дасягненні яна будзе паказваць і ў далейшым.

Беласточчына мае славутыя рэвалюцыйныя традыцыі. Традыцыі барацьбы за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне. З імі трэба азнаёміць нашае грамадства.

Дзеля гэтага Галоўнае праўленне ўжо арганізуе групу дакладчыкаў, якія паедуць з лекцыямі ў вёскі. Такія-ж групы трэба сарганізаваць пры павятовых праўленнях. Члены гэтых груп не толькі будуць выступаць з дакладамі, але і збіраць матэрыялы да іх апрацоўкі. А матэрыялаў ёсць шмат. Ці-ж не цікавіць нашых сяброў тое, як супольна змагаліся члены КПП і КПЗБ у Гайнаўцы, Белавежы, Крынках, Супраслі, Гарадку, Орлі і многіх другіх гарадах і вёсках. Аб гэтых традыцыях павінен ведаць кожны жыхар. Яны павінны быць яму вельмі блізкія. Паказаць традыцыі можна і чытаючы мастацкую літаратуру, арганізуючы спрэчкі над паасобнымі кніжкамі. „Сустрэнемся на барыкадах" — П. Пестрака, вершы М. Танка, М. Васілька і другіх паэтаў — дапамогуць у гэтай справе.

Трэба толькі, каб гэтыя творы былі ў нашых бібліятэках. Абавязкам Таварыства ёсць клапаціцца аб тым, каб кніжкі беларускіх пісьменнікаў дасталіся ў рукі чытачоў. Дагэтуль трэба іх шукаць „са свечкай" ў нашых бібліятэках і клубах. У сучасны момант ёсць такія ўмовы каб яны там былі.

Асобны раздзел з працы Таварыства гэта гурткі мастацкай самадзейнасці.

Дагэтуль яны змагаюцца са шматлікімі цяжкасцямі.

Вядомыя ва ўсім ваяводстве і за яго межамі гурткі з Белавежы і Гарадка не маюць канчаткова дапрацавана-

Працяг на стар. 4.

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

